# Чырвона-армейская

А. М. Дыла



ДВБ 1932

Хуценька бяжыць Андрэйка ў дзіцячы сад. Сёньня сьвята Чырвонай арміі. Цёця Зося казала, што ўсе дзеці пойдуць у госьці да чырвонаармейцаў.

Прыбег Андрэйка ў дзіцячы сад ды пытаецца: — Зараз пойдзем?

— Пачакай, — адказала цёця Зося, — пасьнедаем, тады пойдзем.

Сьпяшаецца Андрэйка есьці, вельмі яму хочацца паглядзець, як жывуць чырвонаармейцы. Пасьнедалі дзеці, апрануліся і пашлі.

Кашары былі недалёка, вось адна вуліца, вось другая. Зараз масток, а каля яго будынак, дзе жывуць чырвонаармейцы.

Два чырвонаармейцы, у шлемах з чырвонымі зоркамі, сустрэлі дзяцей і павялі паказваць кашары.

— Вось тут мы вучымся страляць, калі будзе вайна, будзем абараняць нашу Рэспубліку, — сказаў адзін чырвонаармеец і паказаў дзецям стрэльбу, патроны і як трэба яе заражаць.

Андрэйку вельмі хацелася хоць крыху патрымаць стрэльбу.

— Дзядзечка, — папрасіў ён, — дайце мне, я хачу паглядзець.

— На, таварыш, трымай.

Ухапіўся Андрэйка за стрэльбу, а падняць ня можа.

— Ай, да ваяка, — сказаў чырвонаармеец. — Ну, нічога, падрасьцеш, будзеш добрым стралком.

— Глядзеце, дзеці, вось процігазы, калі вораг на вайне пушчае газ, які атручвае людзей, усе чырвонаармейцы надзяваюць гэтыя маскі. Надзелі і дзеці маскі. Сьмяюцца, не пазнаць нікога.

Павялі чырвонаармейцы дзяцей у Чырвоны куток. На сьценцы вялікі партрэт Леніна, і ён так ласкава глядзіць на ўсіх.

— Тут мы адпачываем пасьля заняткаў—чытаем газэты, слухаем радыё і вучымся.

Бачылі яшчэ дзеці сталоўку, пакой, дзе сьпяць чырвонаармейцы. Чысьценька ўсюды, прыгожа. Чырвонаармейцы гутарылі з дзецьмі і расказвалі аб сваім жыцьці.

Нарэшце павялі дзяцей у стайню. У стайні цёмна, вакенцы маленькія. Коні стаяць, сьценкамі перагароджаныя, фыркаюць, сена жуюць. Дзецям так спадабаліся коні, што і ісьці ня хочуць.

— Нічога ня зробіш, прыдзецца, як відаць, вас дамоў на санках адвезьці,—сказаў чырвонаармеец.

Запраглі коняй, пасадзілі дзяцей і паехалі. Махаюць дзеці ручкамі і крычаць:

— Бывайце здаровы, дзякуй. Прыходзьце да нас у госьці.

